Тэлепраграма з 18 па 24 верасня

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою.
Якуб КОЛАС

№ 73 (4222)

15 верасня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

"ЗАХАД-2017"

# «Паваююць...»

*Учора пачаліся беларуска-расійскія стратэгічныя ваенныя вучэнні «Захад-2017».*



Яны пройдуць на шасці палігонах у Беларусі (Барысаўскім, Даманаўскім, Ружанскім, Лепельскім, Лосвіда і Асіповіцкім), а таксама ў раёне Дрэтуні і Глыбокага (Віцебская вобласць) і на трох палігонах у Расіі.

Згодна з апошнімі звесткамі Мінабароны Беларусі, на беларускай тэрыторыі будуць задзейнічаны 10 тысяч 175 вайскоўцаў, у тым ліку 3 тысячы 100 – расійскіх, 138 танкаў (у тым ліку 98 – расійскай арміі), 231 (104) баявая браніраваная машына, 142 (32) артылерыйскія сістэмы і рэактыўныя сістэмы залпавага агню, 49 (27) самалётаў і верталётаў. Расійская авіяцыя перабазіравалася на беларускія аэрадромы 12 верасня.

Да 30 верасня беларускія часці, задзейнічаныя ў вучэннях, павінны вярнуцца на месцы пастаяннай дыслакацыі, а вайсковыя часці і падраздзяленні расійскай арміі – пакінуць тэрыторыю Беларусі.

Вучэнні плануюць сумесна праінспектаваць Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін.

### Журналісты і назіральнікі

За вучэннямі сочаць прыблізна 80 замежных назіральнікаў ад Латвіі, Літвы, Польшчы, Украіны, Эстоніі, Швецыі і Нарвегіі, ААН, АБСЕ, НАТА, СНД, АДКБ, Міжнароднага камітэта Чырвонага Крыжа, а таксама акрэдытаваныя ў Мінску вайсковыя аташэ.

Для асвятлення сумесных беларуска-расійскіх стратэгічных вучэнняў «Захад-2017» МЗС Беларусі акрэдытавана больш за 270 замежных журналістаў.

### Хто кажа няпраўду?

Міністэрства абароны Беларусі абвергла заявы расійскага ведамства аб перакідцы падраздзяленняў 1-й танкавай арміі Заходняй ваеннай акругі на тэрыторыю нашай краіны для ўдзелу ў вучэннях «Захад-2017», паведаміў прэс-сакратар галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы Мінабароны Уладзімір Макараў.

Учора раніцай Міністэрства абароны Расіі заявіла, што падраздзяленні Заходняй ваеннай акругі (ЗВА), якія прыцягваюцца да сумесных стратэгічных вучэнняў «Захад-2017», пачалі перакідку асабовага складу ўзбраення, вайсковай і спецыяльнай тэхнікі на палігоны ў Беларусь.

### Рэакцыя суседзяў

Украіну «вельмі непакоіць пастаноўка задач» на расійска-беларускія вучэнні «Захад-2017» і іх неадпаведнасць міжнародным патрабаванням, заявіў міністр замежных спраў Украіны Павел Клімкін.

«Мы разумеем, што справа не толькі ў гэтых вучэннях, расійская пагроза з'яўляецца сістэмнай – яна не абмяжоўваецца толькі гэтай падзеяй", – адзначыў Клімкін.

### Рада БНР супраць

Беларуска-расійскія ваенныя вучэнні «Захад-2017», якія распачаліся 14 верасня, наносяць вялікую палітычную шкоду Беларусі і шкоду яе рэпутацыі перад міжнароднай супольнасцю. З такой заявай выступіла Рада БНР.

Рада БНР далучаецца да засцярог, якія выказваюць дэмакратычная супольнасць Беларусі і некаторыя міжнародныя назіральнікі, датычна таго, што, нягледзячы на заявы прадстаўнікоў Міністэрства абароны Беларусі, асобныя фарміраванні расійскіх войскаў могуць застацца на тэрыторыі Беларусі пасля заканчэння вучэнняў.

СКАНДАЛ

Павел КЛІМКІН, міністр замежных спраў Украіны:

## «Расійскія спецслужбы дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі...»

Расійскія спецслужбы дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі, і *«украінскія грамадзяне павінны добра паразважаць, якім чынам ездзіць»* у суседнюю краіну, заявіў міністр замежных спраў Украіны Павел Клімкін у інтэрв'ю агенцтву "Укрінформ".

*"Пасля таго, як Павел Грыб знік з тэрыторыі Беларусі, мы павінны гаварыць пра небяспеку знаходжання ўкраінскіх грамадзян не толькі на расійскай тэрыторыі. Хачу скарыстацца гэтым інтэрв'ю і яшчэ раз папярэдзіць грамадзян Украіны аб небяспекі знаходжання на расійскай тэрыторыі, дзе ўсе расійскія спецслужбы паслядоўна дзейнічаюць супраць нашых грамадзян. Я заклікаю кожнага, хто едзе на расійскую тэрыторыю, вельмі добра падумаць, ці ехаць туды. Але цяпер у нас стваралася сітуацыя, калі мы бачым, што расійскія спецслужбы дзейнічаюць таксама на тэрыторыі Беларусі, і я лічу, што ўкраінскія грамадзяне павінны добра падумаць, якім чынам ездзіць туды»*, – сказаў кіраўнік знешнепалітычнага ведамства.

Кіраўнік МЗС Украіны лічыць, што *«кожная краіна павінна кантраляваць тое, што адбываецца на яе тэрыторыі, – гэта складнік суверэнітэту». «І як толькі мы будзем мець поўную карціну таго, што здарылася з Грыбам, за гэтым таксама будуць зроблены крокі»*, – падкрэсліў Клімкін.

Пра знікненне 19-гадовага Паўла Грыба заявіў 28 жніўня яго бацька, член грамадскага савета Дзяржпагранслужбы Украіны Ігар Грыб. Паводле яго інфармацыі, 24 жніўня Павел адправіўся ў Гомель на сустрэчу з дзяўчынай, з якой пазнаёміўся і меў зносіны толькі ў сацсетках. Дзяўчына нібыта павінна была прыехаць на сустрэчу з Расіі.

Павел Грыб планаваў вярнуцца ў той жа дзень. Калі гэтага не адбылося, бацька выехаў на яго пошукі ў Гомель, дзе высветліў, што сын знаходзіцца ў вышуку на падставе арт.205 Крымінальнага кодэкса РФ (тэрарыстычны акт), а ініцыятарам вышуку з'яўляецца ФСБ Расіі па Краснадарскім краі (горад Сочы).

7 верасня афіцыйны прадстаўнік дэпартамента консульскай службы МЗС Украіны Васіль Кірыліч паведаміў, што Павел Грыб, які знік у Беларусі, знаходзіцца ў Расіі, у краснадарскім СІЗА.

**Андрэй СЕРАДА,**
БелаПАН.

ХТО ЁСЦЬ ХТО

## Нарадзіўся ва Украіне, вучыўся ў Расіі



*Учора Андрэй Худык стаў міністрам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.*

Гэтая пасада была вакантнай з чэрвеня, пасля таго як былога кіраўніка ведамства **Андрэя Каўхуту** адхілілі ад пасады: ён праходзіць фігурантам па крымінальнай справе аб арганізацыі службовага падлогу.

Апошняе месца працы новага міністра – намеснік кіраўніка спраў прэзідэнта Беларусі, якую Худык займаў з 2014 года. Там ён курыраваў прыродаахоўную тэматыку, запаведнікі, заказнікі, здраўніцы і г.д.

Андрэю Худыку 58 гадоў. Ён нарадзіўся ў вёсцы Астраўчане Камянец-Падольскага раёна Хмяльніцкай вобласці Украіны. Адукацыю атрымаў у Расіі. У 1987 годзе Худык скончыў Ленінградскі сельгасінстытут, а 11 гадоў таму, калі яго кар'ера ў Беларусі пайшла ўгару, – Расійскую акадэмію дзяржаўнай службы пры прэзідэнце Расійскай Федэрацыі.

Менавіта з Беларуссю звязана працоўная біяграфія Андрэя Худыка. Пасля службы ў войску ён застаўся ў Гродзенскай вобласці. Спачатку працаваў на розных пасадах на сельгаспрадпрыемствах, затым старшынёй калгаса, кіраваў Браслаўскім аграпрамысловым камбінатам. З 2002-га па 2011 год Худык узначальваў Дзятлаўскі, а потым Лідскі райвыканкамы. З 2011-га па 2012 год займаў пасаду намесніка старшыні Гродзенскага аблвыканкама. З 2013-га па 2014 год – старшыня Гродзенскага гарвыканкама.

Нягледзячы на высокія пасады, Андрэй Худык рэдка даваў інтэрв'ю. Пра яго пісалі, што Худык – «рынашнік», умее добра прыцягваць інвестыцыі і прыязджаць з бізнесменамі. Пісалі, што менавіта Худык прыцягнуў у Ліду замежны капітал, зрабіўшы горад прывабнай інвестыцыйнай пляцоўкай. У 2011 годзе імя Худыка згадвалася ў прэсе ў сувязі са скандалам у Лідзе: Худык падаў пазоў у суд на мясцовага блогера, палічыўшы, што той яго абразіў, выклаўшы ў сацыяльных сетках пародыю – адзін дзень з жыцця кіраўніка мясцовага райвыканкама. А кіраваў Лідай тады менавіта Худык. Суд пакараў маладога чалавекам штрафам у 700 тысяч рублёў.

Дарэчы, брат Андрэя Худыка Мікалай жыве ў Кіеве. Ён юрыст, быў суддзя Апеляцыйнага суда Кіева, а з сакавіка гэтага года – член Вышэйшага савета правасуддзя Украіны. А сын новага міністра, 36-гадовы Вадзім Худык, працуе дырэктарам ААТ «Лідаагратрадукт».

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ІХ ЛЁС ХВАЛЮЕ БЕЛАРУСЬ

## 18 гадоў таму зніклі
## Віктар Ганчар і Анатоль Красоўскі

Вечарам 16 верасня 1999 года палітык Віктар Ганчар і бізнесмен Анатоль Красоўскі пайшлі ў лазню, што знаходзіцца на вуліцы Фабрычнай у Мінску. Што здарылася пасля таго, як яны прыблізна а палове 11-й вечара выйшлі з лазні і селі ў джып, які належаў Красоўскаму, – дагэтуль дакладна не вядома. З таго часу іх ніхто не бачыў...

Следчыя паведамлялі, што на месцы гвалтоўнага выкрадання былі знойдзены сляды крыві Віктара Ганчара і сколы святло-сігнальных прыбораў аўтамабіля імпартнай вытворчасці.

У сродках масавай інфармацыі паведамлялася, што знайшоўся сведка, які ў дзень знікнення Ганчара і Красоўскага каля лазні бачыў чырвоны аўтамабіль «БМВ», у якім сядзелі тры чалавекі. А жанчына, якая працавала ў лазні, узгадала, што чула крыкі аб дапамозе, шум, мужчынскія галасы.

Аднак афіцыйнае следства заявіла, што *«грамадзяне Ганчар і Красоўскі былі выкрадзены і вывезены ў невядомым накірунку. Высветліць іх далейшае месцазнаходжанне няма магчымасці...»*

Былы начальнік Галоўнага ўпраўлення крымінальнай міліцыі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі генерал Мікалай Лапацік у сваім рапарце на імя міністра ўнутраных спраў Навумава выклаў падрабязнасці выкрадання Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і зніклага за некалькі месяцаў да іх эксміністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі:

*«Акцыя захопу і далейшага знішчэння Захаранкі ажыццяўлялася групай вайскоўцаў спецназу на чале з Паўлічэнкам (камандзір вайсковай часці 3214). Па аналагічнай камбінацыі 16.09.1999 Паўлічэнка і яго група правялі акцыю захопу і знішчэння В.Ганчара і А.Красоўскага. Планаванае месца пахавання трупаў – спецучастак на Паўночных могілках».*



Сваякі Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага скептычна ставяцца да верагоднасці таго, што ў бліжэйшы час вінаўнікі ў гвалтоўным знікненні Ганчара і Красоўскага будуць пакараны па ўсёй строгасці закона.

Але ў такіх справаў няма тэрміну даўніны.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ЧУЛІ?

## Атрымалі прызначэнні...

**Калеснік Валерый Георгіевіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Інданезія і па сумяшчальніцтве ў Малайзіі, Рэспубліцы Сінгапур і Рэспубліцы Філіпіны;

**Алейнік Сяргей Фёдаравіч** – пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры Міжнароднай марской арганізацыі па сумяшчальніцтве.

**Гарбачоў Андрэй Аляксеевіч** – старшынёй Буда-Кашалёўскага райвыканкама;

**Байкова Вераніка Анатольеўна** – старшынёй Лоеўскага райвыканкама;

**Палуянаў Віктар Васільевіч** – старшынёй Акцябрскага райвыканкама;

**Алейнікаў Дзмітрый Вадзімавіч** – старшынёй Светлагорскага райвыканкама;

**Дзенгалёў Генадзь Іванавіч** – старшынёй Барысаўскага райвыканкама;

**Карповіч Мікалай Мікалаевіч** – старшынёй Старадарожскага райвыканкама;

**Казлоў Віталь Мікалаевіч** – старшынёй Чэрвеньскага райвыканкама;

**Бачкоў Дзмітрый Уладзіміравіч** – старшынёй Крычаўскага райвыканкама;

**Матусевіч Дзмітрый Феафанавіч** – намеснікам міністра эканомікі;

**Шчарбакоў Сяргей Сяргеевіч** – намеснікам старшыні Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях;

**Бабыр Ігар Міхайлавіч** – генеральным дырэктарам ААТ «Гродна Азот»;

**Астрэйка Аляксандр Вячаслававіч** – членам Брэсцкага аблвыканкама;

**Мурашкін Аляксандр Андрэевіч** – членам Брэсцкага аблвыканкама.

ЖУРНАЛІСЦКІ ЭКСПЕРЫМЕНТ

# Паўторная праверка

*Як карэспандэнт «Народнай Волі» выяўляў на сталічным Камароўскім рынку радыяцыйныя грыбы.*

Грыбное шчасце, што абрынулася апошнімі днямі на аматараў збіраць чырвонагаловікі, падбярозавікі і баравікі, ніякім чынам не магло абмінуць бокам галоўны рынак Мінска. Не ўсе, безумоўна, маюць магчымасць і жаданне наведаць лес, але калі ёсць попыт, то, натуральна, з'яўляецца і прапанова. Таму хтосьці збірае лясныя падарункі толькі для сябе, а для кагосьці гэта яшчэ і добрая магчымасць паправіць сваё матэрыяльнае становішча.

...Ужо на падыходзе да Камароўкі проста на зямлі выстаўлены цэлыя шэрагі вёдраў з грыбамі. У асноўным гэта чырвонагаловікі і прыгажуны-баравікі. Прадаюць іх пераважна бабулькі, для якіх кожны дадатковы рубель – шчасце. Гэтая катэгорыя гандляроў адрозніваецца ад тых, хто прадае на рынку, бо яны не плацяць за месца і, адпаведна, не правяраюць грыбы на радыяцыю. Таму ім даводзіцца канспіравацца, і калі нехта з іх заўважае міліцэйскі патруль, шарэнга бабулек адразу ж знікае.

– Кружаць, бы тыя авадні, – абураюцца на праваахоўнікаў бабулі-нелегалы і ўмомант растварваюцца, пакінуўшы вёдры з грыбамі стаяць без гаспадароў.

Зрэшты, паводле маіх назіранняў, міліцыянеры даволі лаяльна ставяцца да пенсіянераў, хаця і нагадваюць ім, што гандляваць тут забаронена. Але сваё месца гандляры пакідаць, падобна, не збіраюцца, бо прадаць жа тавар трэба. Не для таго ехалі ў сталіцу, каб цягнуць грыбы назад.

Цэны ў нелегалаў крыху меншыя, чым на рынку, да таго ж можна і пагандлявацца. Літровае вядро баравікоў (у залежнасці ад велічыні і якасці грыбоў) можна купіць за суму ад 5 да 10 рублёў, трохлітровае каштуе 10–15, пяцілітровае – 20–25 рублёў.

Бабулька з Жодзіна прадае мне невялікае вядзерца за 8 рублёў і, хаця грыбы яна не правярала, запэўнівае, што яны "абсалютна чыстыя". Аргумент у яе жалезны: "Я ўсё жыццё ела грыбы з гэтага лесу, і бачыце – стаю перад вамі жывая".

А вось на рынку гандаль без дакументаў забаронены, таму ўсе напачатку нясуць тавар на праверку ў санітарна-ветэрынарную лабараторыю.



Працэдура простая: неабходны пашпарт, каб скласці дамову, і аплата за паслугу ў памеры 3 рублі 75 капеек. Паводле вынікаў праверкі лабараторыі, калі грыбы "чыстыя", выдаецца адпаведны сертыфікат.

Дарэчы, усе прадаўцы на Камароўцы, да якіх я звярталася, без аніякіх праблем паказалі паперы, у якіх пазначана ўтрыманне цэзію-137 у грыбах. А большасць гэтыя самыя сертыфікаты і наогул вывешваюць разам з цэннікам.

– Пагляздзіце, якія прыгажуны! – заманьвае мяне жанчына, у якой баравікі на любы памер і густ. Адпаведна ім і кошт адрозніваецца. Кілаграм вялікіх і старых белых грыбоў каштуе 8–10 рублёў, столькі ж – літр маладых.

– Грыбны ажыятаж ужо праходзіць, баравікоў становіцца менш, а таму купляць трэба менавіта зараз, – распавядае мне гандлярка з Лепельскага раёна і хваліцца, што за дзень сям'я прыносіла дадому па 200–300 белых грыбоў.

Грыбная "геаграфія" на Камароўцы самая шырокая, але я, напрыклад, не знайшоў прадаўцоў з Брэсцкай альбо Гомельскай абласцей, дзе, паводле некаторай інфармацыі, грыбы нярэдка "свецяцца". Гэтым днём сталічны грыбны рынак прадстаўлялі Асіповіцкі раён, Смаргонь, Віцебская вобласць, Старыя Дарогі...

Тым часам, каб даведацца, ці не падманваюць пакупнікоў прадаўцы, вырашыў акрамя той бабулі, што прадала мне грыбы без дакументаў, набыць іх яшчэ ў трох месцах, але менавіта на рынку, дзе тавар прайшоў праверку . У выніку купіў па кілаграме-другім баравікоў у гандляроў з Лепеля, Асіповічаў і Смаргоні. Па дакументах у лепельскіх грыбах утрымліваецца каля 80 бекерэляў на кілаграм (пры норме 370 Бк/кг), у асіповіцкіх – 91 Бк/кг, самыя чыстыя смаргонскія – 45 Бк/кг.

Далей мой шлях ляжыць у тую ж самую санітарна-ветэрынарную лабараторыю, заключэнне якой я толькі трымаў у руках. Не афішуючы свой журналісцкі інтарэс, не прызнаюся, што хачу пераканацца ў сапраўднасці лабараторных даследаванняў, а кажу: маўляў, вось назбіраў грыбоў у адным з аддаленых раёнаў і хачу праверыць на ўтрыманне радыяцыі. Але зранку мне... даюць ад варот паварот.

– Не можам прыняць грыбы, у нас аўрал, у першую чаргу трэба абслужыць тых, хто прывёз грыбы, каб прадаць на рынку! – крыўдзяцца на мяне за дадатковыя турботы лаборанты.

– А ці шмат грыбоў, у якіх радыяцыя перавышае норму? – цікаўлюся ў спецыялістаў.

– Дзень праз дзень знаходзім. Ёсць такія, натуральна, прадаваць іх ні якім разе нельга. З Налібоцкай пушчы хапае радыяцыйных грыбоў, з Гомельскай і Брэсцкай абласцей...

Мне прапаноўваюць накіравацца ў раённую ці гарадскую санітарна-ветэрынарную службу, але мая настойлівасць у рэшце рэшт дае вынік – лабараторыя пагаджаецца праверыць грыбы, калі я прынясу іх пазней.

Баравікі з чатырох "кропак" я здаю ў 14.00, а адказ мне даюць па тэлефоне праз тры гадзіны (пісьмовае заключэнне абяцаюць падрыхтаваць праз дзень). Самае цікавае: паўторная праверка паказала, што ў гэтых самых грыбах утрымліваецца яшчэ менш цэзію-137, чым пазначана ў сертыфікатах. У лепельскіх – 70,1 Бк/кг, асіповіцкіх – 73,5, смаргонскіх – 11,2. А самыя чыстыя баравікі аказаліся ў бабулі з Жодзіна, якая прадавала іх на вуліцы без дакументаў, – менш за 10 Бк/кг! Не падманула...

Праўда, засталася адна загадка: чаму ў дакументах тых, у каго я купіў "эксперыментальныя" грыбы, адны лічбы, а ў мяне крыху іншыя?..

**Алесь СІВЫ.**
*Фота аўтара.*

